**УЛАДЗІМІР КОРБАН**

# З ВЕЦЯРКОМ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
МІНСК 1957

Уладзімір Корбан

# З ВЕЦЯРКОМ



БАЙКІ І ВЕРШЫ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
Рэдакцыя мастацкай літаратуры
Мінск 1957



## СЛАНОВАЯ ЗАРПЛАТА

Казёл быў у Вала сакратаром.
І вось на пашы, неяк рана,
Яму заўважыў конь Буланы:
«Мы з Вараным ніяк не разбяром,
Навошта гэткая табе пасада?
Ні чыну у цябе тут, ні акладу.
Ты-ж не хто-небудзь, а Казёл!
Цябе не паважае Вол».
«Ну, кінь,— сказаў Казёл,— і дужа паважае.
Што чыну я не маю,
Дык гэта не бяда. А вось аклад
Я маю значны, брат:
Сланом лічуся я па штату
І атрымоўваю слановую зарплату».

---

А хіба ў нас не так? — Залічваюць у штат
Кагосьці на пасаду інжынера,
А даручаюць падшываць паперы.





## ЛЕЎ І МЯДЗВЕДЗЬ

Леў цяжкую нагрузку нёс:
Начальнік як-ні-як, фігура немалая,
А хто вялікі пост займае,
Заняткаў у таго, як кажуць, цэлы воз:
Абдумаць, паглядзець, дамовіцца, звязацца,
Пагутарыць, часамі паспрачацца,
На пасяджэннях дзень і ноч сядзець...
Вядома, Льву не разарвацца!
Дык у паперах разбірацца,
Падпісваць і за рухам іх глядзець
Павінен быў намеснік Льва — Мядзведзь.
А той быў дабраком, прызнацца:
Заўжды спакойны, не крычыць,
Калі-ж і пабурчыць,
Дык не сурова.
Усё падпісвае без лішняе размовы:
Рахунак, план, загад ці каштарыс,
Абы прынеслі — чырк алоўкам — і гатова.
Такую прастату падмеціў Ліс
І скарыстаць яе па-свойму ухітрыўся:
Паперак некалькі на подпіс падаткнуў,
Мядзведзь іх падмахнуў,
А Ліс праз тыдзень змыўся
З грашмі, што ў банку атрымаў.

Пачалі правяраць.— Ды як-жа ён злаўчыўся?—
І ўбачылі: Мядзведзь два чэкі падпісаў.
Калі даведаўся пра гэта Леў,
Дык ён ледзь-ледзь Мядзведзя не заеў,—
Вымову заляпіў, і знізіў у пасадзе,
І так ганяў за разявацтва на нарадзе,
Што той і дыхаць перад ім не смеў.

---

І варта,— я дадам,— хай не зявае!
Але-ж і Льву ўляпіць не шкодзіць па хвасту:
Знаходзіцца, разява, на пасту,
А справы перадавярае.





## СЯМІГОДКА

Мядзведзь рэмбудканторай кіраваў
І ў лесе школу будаваў.
А школа гэта рэч такая,—
Будуй хутчэй, калі заданне атрымаў,—
Вучэбны год не пачакае!
Але Мядзведзь
Па-свойму падышоў да справы.
«Падумаць трэба,— кажа,— паглядзець,
Каб непрыемнасцей не мець,
А то залічаць потым у разявы».
І лета цэлае прыкідваў, развважаў...
Нарэшце восень адышла памалу.
Зіму ў бярлогу ён «прапланаваў»,
А потым цэлы год рашаў «пытанні матар'ялу».
Прабегла не адна зіма,
А школы ўсё няма й няма.
Мядзведзіха дзяцей накіравала
Туды, дзе школа існавала,—
Там вучацца ужо каторы год яны...
Мядзведзь чатыры мураваныя сцяны
Падвёў пад дах за гэты час «кароткі».
Смяяўся між сябрамі Кот:

«Па праву школа мае назву сямігодкі,—
Яе Мядзведзь будуе сёмы год!».

---

А хіба вынікі там іншыя бываюць,
Дзе школы будаваць мядзведзям даручаюць?





## АСЛІНАЕ ПРЫЗНАЧЭННЕ

Асёл не справіўся ў галоўаўсе.
Што-ж, перакінулі яго на галоўсена.
Але, глядзяць, і гэта змена
Ніякіх зрухаў не нясе:
Памалу
І галоўсена заняпала,
Хаця Аслу дапамагалі ўсе
У кіраўніцтве, як малому.
Што-ж, перакінулі Асла ў галоўсалому.
І зноў бяда, усё не так:
Нядбайнасць, непарадкі, брак...
Рашылі перакінуць
Асла ў галоўмякіну.
А ён ідзе па бітаму шляху,—
Не справіўся і з прызначэннем гэтым:
Паслалі намам у галоўзбытпялюху,
А потым кінулі тавараведам
У раймохвенікпамяло,
А вынікаў не атрымалі,
Бо ўсюды заставаўся ён аслом,
Куды-б яго ні пасылалі.

Нарэшце развялі бяду:
Вазіць ваду
Асла накіравалі.
І гэтым сапраўды яму дапамаглі.
Ну, лепей і прыдумаць не маглі!

---

Падбор кіраўніка — не жарты.
Як гэта трэба пачынаць?—
Перш добра высветліць, чаго работнік варты,
А потым на пасаду прызначаць.





## МІКЕШКА І ДОЎГАНОСІК

Тры дні Мікешка зерне падсяваў,—
Буйная урадзілася пшаніца!
А вось змалоць ніяк не ухітрыцца,
Бо з доўганосікам яна — млынар забракаваў.
Глядзіць Мікешка, а сусед Рыгор
Вязе пшаніцу на млынарскі двор.
І цуд: млынар нібы яго чакаў,—
Прыняў мяхі у міг адзіны,
У бункер зерне сыпаць загадаў,
І цераз дзве гадзіны
Рыгор мучыцу атрымаў.
Мікешка да яго: «Сусед!
Твая-ж таксама з доўганосікам пшаніца.
Чым чысціў ты яе? Адкрый сакрэт!» —
«Гарэлкі гэта дрэнь баіцца».—
«А што, гарэлку трэба ў зерне ліць?»
«Ды не,— сусед схаваў усмешку,—
Патрэбна з млынаром літровачку распіць...»

---

Змалоў Мікешка.





## КОННІК БЕЗ ГАЛАВЫ

«Люблю,— казаў Сцяпан,— каня усёй душой.
Мяне да коней проста цягне,
Мець добрых коней сэрца прагне.
На стайні быць — вось абавязак мой!»
Дамогся ад калгаснага праўлення
На стайню прызначэння.
І паказаў да коней ён любоў:
Узброіўся, як кажуць, бізунамі да зубоў
І дыхту коням даў за лета:
Мышасты, як спартсмен, бар'еры браў,
Буланы у яго «цыганку» танцаваў,
Гняды-ж ледзь не салістам стаў балета.
На вадапой
Ніколі коні не ішлі ступой,
А, так сказаць, вылазілі са скуры.
Таксама ў поле на папас,
Як бура,
Табун імчаўся кожны раз.
Калгаснікі на гэта доўга пазіралі,
А потым кажуць: «Хіба ў нас
Тут цырк, а не калгас?»
І «Коннікам без галавы» яго празвалі.

---

А вывад тут які, цікава?
Скажу, калі цікавіцеся вы:
Не зробіць з толкам той ніякай справы,
Хто на плячах не мае галавы.





## ЗАЛАТЫЯ РУКІ

Хадзіла колісь прымаўка такая:
Заўжды выдатны майстар п'е.
А я скажу, сябры мае:
Дзе п'янства, там майстэрства не бывае.

---

Мікола быў лякальшчыкам адменным:
Умела працаваў
І добра зарабляў.
Сказаць па праўдзе, пасля змены
І выпіваў.
Спачатку дома, на кватэры,
А далей — больш, пайшло праз меру:
Закончыць працу — і ў буфет,
Насмокчацца, бывала, як не след...
Сям'я набралася з ім мукі.
«Паслухай, кінь ты свае штукі!»—
Казалі у цаху не раз,
Але ў яго адзін адказ:
«Я маю залатыя рукі!»
«Не, дружа, разважаеш ты не так:
Майстэрства не ў руках трымаюць,—
Пры п'янай галаве і рукі падкачаюць».
І вось, пачаў рабіць Мікола брак.

Разрад панізілі на працы,
І з тым не можа ён спраўляцца,—
Што-б ні зрабіў — усё не так.
І да таго дапіўся ён нарэшце,
Што не маглі яму даверыць цэх падмесці.





## ІВАНАВЫ КІШЭНІ

Іван, працуючы калгасным канюхом,
Штодня, цішком,
Кішэнямі авёс насіць дахаты ухітраўся.
Але-ж ці многа ўсыплеш ты ў кішэні?
Ну, дзве ці тры там жмені,
А апетыт ягоны разгараўся.
І вось ён жонцы даў загад:
Кішэні павялічыць тэрмінова.
Загад быў выканан без слова.
Іван, вядома, рад:
«Цяпер я,— кажа,— буду
Насіць аўса дахаты па поўпуда!»
І сапраўды, ён кожны дзень,
Дахаты ідучы, трымаўся за пляцень,
Бо ад цяжару аж згіналіся калені.
Захваляваліся ў праўленні:
«Што з коньмі ў нас? Яны
Худыя, нібы тараны!»
Калгасны старшыня не мог даць рады.
Ну, хто падкажа — ў чым тут зло?

Аднойчы праз акно глядзеў ён на сяло
І ўбачыў, як Іван ішоў дахаты.
«Працуе чалавек заўзята,—
Падумаў старшыня.— Няма яму цаны!»
І тут якраз на пяты
Івану з'ехалі штаны —
Папружка не ўтрымала,
З кішэняў на зямлю пасыпаўся авёс.
Падвёў Івана лёс:
Усім, нарэшце, ясна стала,
Што ў целе коням быць перашкаджала
Іванава махлярства, без сумнення.

---

Калі дзе коні пачалі худзець,
Нялішне будзе паглядзець
У канюхоўскія кішэні.





## БРЫГАДНЫ КУМ

Калгасны брыгадзір не знаўся з сумам,—
Было ў Фадзея добрае жыццё:
Ў каго-б ні нарадзілася дзіцё —
Ён стаць імкнуўся кумам.
Калі ўдавалася — Фадзей бязмежна рад,
Дый кум-жа сапраўды ён быў удалы,
Бо ведаў падрабязна рытуалы
І адпаведна вёў абрад,—
Умеў пагаварыць пра хлеб і соль,
Кілішак вып'е, рэшту — ў столь...
Сяброў у Кузьміча — хоць гаць гаці!
Глядзіш, і просіць хто зайсці:
«Ты-ж сёння, як відаць, кумок,
Не пахмяляўся...»
Фадзей Кузьміч не адмаўляўся,
Заходзіў, частаваўся.
Калі-ж не клікалі, то да кумоў
Фадзей і сам ішоў,—
На чарку набіваўся.
А іншы раз, дарэчы скажам мы,
У вольную хвіліну,
Ён забягаў і да кумы
Тацяны, Палагеі ці Мальвіны...
А справы у брыгадзе як?
Ды так сабе — ішлі памалу.

Брыгада сеяла, арала
Так-сяк
І нават нешта восенню збірала.
Фадзею-ж напляваць,— навошта гэты тлум!
Фадзей — брыгадны кум.

---

У байцы прыклад я прывёў ганебны,
Ды колькі-б ты на іх не траціў вострых слоў,—
Не проймеш гэтакіх кумоў.
Рашуча іх за карак браць патрэбна.





## СІНІЦА

Заўжды была Сініца працавітай,
Ніколі спаць не клалася нібыта.
Ледзь толькі сонца першы кідала прамень,
Яна ўжо дрэвы аглядала,
Кляшчоў ды чарвякоў шукала
І цэлы дзень
Упарта шкоднікаў лясных знішчала.
І раптам працаваць Сініца перастала:
Сядзіць на кусціку, пінь-пінькае ледзь-ледзь,
Пяшчотна так наўкола пазірае,
Пярынкі на грудзях перабірае.
На працу-ж і не думае ляцець.
Здзівіўся Верабей: «Ды што такое з птушкай?!
Была старанная, а зараз... Як-жа так!»
Але прычыну Вераб'ю на вушка
Аднойчы растлумачыў Шпак,
На бэз прысеўшы за штакетам:
«Яна за Дзятла замуж выйшла летам!
А ты не ведаеш, дзівак?»

———

Гісторыю такога роду
Яшчэ нярэдка можна назіраць:
Дзяўчына любіць працаваць,
А стане жонкай, ну хаця-б рахункавода,
І ўсё — на працу напляваць.





## НЯЛЮБЫ ПРАДМЕТ

У баравой сярэдняй школе
Нялюбым стаў адзін прадмет.
Раней такога не было ніколі,
Вучылі вучні ўсё як след,
Батаніка вагу таксама мела
І раптам — на! — чамусьці знелюбела.
Дабегла гэта навіна
Да БорАНА.
Адтуль інспектавацЬ прымчалася Сініца,
А толку не змагла дабіцца,—
Хвілін пятнаццаць у дырэктара яна
У кабінеце пасядзела,
— Фіць! Фіць! — і паляцела.
Прычына-ж тут была адна:
Глушэц батаніку ў той школе выкладаў
І так-жа нудна балбатаў,
Што вучні на уроках засыналі,
Таму й прадмет не паважалі.

---

Няўмека, балбатун, нядбайнік і разява
Збузуюць вам любую справу.






## ПЕРАКЛАДЧЫК

Было патрэбна перакласці новы
Падручнік для вячэрніх школ.
Вось перакладчык Фрол
На працу заключыў умову,
Авансік атрымаў і рад,
Ды тут пачуў, што трэба пераклад
Тэхнічнай нейкае брашуры.
Умова зноў. «Зраблю як-небудзь паміж спраў!»
А заадно умову склаў
На кніжку аб хваробе скуры.
Якая трэба галава
Для гэткай рознастайнай працы?
Дый шмат яе, гады са два
Не меней давядзецца завіхацца.
Але той Фрол даволі вёрткі быў:
Падручнік перадаў ён сыну,
Брашуру жонцы даручыў,
А сам налёг на медыцыну.
Цераз поўмесяца усе ён працы здаў

І зноў тры кніжкі ўзяў:
«Каметы», «Іпадром»
І «Будаўніцтва ў калгасе».
А ў выніку з'явіўся новы том
У... ашчадкасе.
А якасць? Напляваць!— навошта знаць яму,
Што чытачы, калі чыталі,
Плячамі толькі пацыскалі:
Не разумелі, што к чаму.

---

Патрэбна рукі адбіваць
Усякаму стварэнню,
Што працу робіць так, абы перакладаць
Рублі дзяржаўныя ў сваю кішэню.





## ЯСЛІ

Крот вырашыў адкрыць у лесе яслі.
«Пара ламаць,— казаў,— парадак нам такі,
Што могуць працаваць бацькі,
А маці дома ў клопаце загразлі.
На працы мусяць быць усе», —
І тут-жа даў загад Лісе.
Ліса ўзялася тэрмінова
І праз поўтыдня акурат
Скамплектавала апарат
Для новай і патрэбнай установы:
Куніца — кладаўшчык, Яноціха — кухарка,
Вавёрка з Ласкай — нянькі, Гарнастай
Бухгалтарам у яслях стаў,
І справа закіпела шпарка.
Але ніхто туды дзяцей аддаць не мог,—
Занялі месцы дзеці апарата:
Лісіца прыняла дачушак чатырох,
Вавёрка пяць сясцёр і брата,
Яноцішын сынок ды гарнастая ўнук,
Прынёс пляменніка сваяк-Барсук.
Былі яшчэ прыняты
Кацяняты,
Бо Кот пасябраваў з Лісой
І дастаўляў заўсёды ёй
На свята
Ласункі з птушкакамбіната.

А каб не муляла вачэй
І прыкрываць было ямчэй
Становішча такое,
Прынялі Зайчанё малое.
І вось жывуць, у працы лад у іх,
Гадуюць дзетачак сваіх
Ды атрымоўваюць зарплату.

---

Парадкаў там не можа быць другіх,
Дзе кіраўнік з прыроды слепаваты.





## УЗДЫМ АЎТАРЫТЭТУ

Сцяпан Кірылавіч рашыў узняць аўтарытэт,—
Набыць вагу сабе ў народзе.
Усё абдумаўшы як след,
Ён заявіў на сходзе:
— «Паеду я ў калгас!»
Разлік, уласна кажучы, быў тонкі,—
Ён ведаў, што падлізы і падхалімёнкі
У той-жа час
Заенчаць безумоўна: «Як? Куды?
Сцяпан Кірылавіч! А установа?
Салідны кіраўнік! Дарэмная размова.
Не можам адпусціць. Нацерпімся бяды!»
І сход не згодзіцца пусціць яго, абавязкова.
А ён тады —
Узрос аўтарытэт! — адзначыць смела:
І козы сыты й сена цэла.
А здарылася ўсё наадварот:
Заяву падтрымаў рашуча сход,
А падхалімы нібы вады набралі ў рот.
Сцяпан Кірылавіч затросся,
А што рабіць яму было?
Ён не збіраўся ехаць на сяло.
Тут новы ход прыдумаць давялося,—
Не знішчыў за сабой Кірылавіч масты!

Аб ім крычалі радыё, газеты,—
Быў велізарнейшы уздым аўтарытэту,
А ён падаўся у кусты:
Раптоўна захварэў,— на хітрыкі пусціўся,—
І... ад калгаса адкруціўся.

---

Каб не ўсумніўся хто у праўдзе маіх слоў,
Дык я ў маралі заяўляю:
Пацвердзіць байку фактамі гатоў,—
Я адрас гэткага дзялягі маю.





## ХВЯДОС І ПРЫКМЕТЫ

Як след паснедаўшы, Хвядос
Падаўся пакурыць на ганак
І, дым пускаючы праз нос,
На неба пазіраў. Мінуў даўно ўжо ранак.
І хоць на вуліцы быў неслабы мароз,
На поле з торфам рухаўся абоз,
Са стайні везлі гной за возам воз,
У свірне трыерам пагрукваді дзяўчаты.
Два МАЗы
Збегалі ў раён,
Прывезлі з базы
Восем тон
Калійнай солі і суперфасфату.
Ну, словам, у калгасе скрозь
Кіпела праца, як і трэба.
Адзін Хвядос глядзеў на неба
І разважаў здаволена: «Вось, вось!
Усе выдатныя прыкметы:
На небе воблакі пад новы год, —
Цудоўны будзе умалот
Налета!
Прытым марозік не благі,
І буйныя снягі
Таксама пацвярджаюць гэта.

Багаты будзе год, куды тут ні круці!»
«Ты, браце мой, на неба не глядзі,—
Заўважыў Селівей,— а шавялі рукамі,
Прыкметы мы цяпер ствараем самі.
Нам ураджаю год не прынясе,
Калі мы дзень у дзень усе
На неба будзем пазіраць вось так,
Як ты, лайдак.
Няма калі нам глупствамі займацца».

---

Прыкметы поспехаў — у дружнай працы.





## МАМЧЫН КЛОПАТ

Варона вывела вясною вараня.
Малое падрасло, з гнязда зляцела
І каркнула нясмела.
«Дзіцятка! Салаўю раўня!» —
Ад шчасця аж прысела маці,
Пачуўшы голас вараняці,
І пачалася мітусня.
Абы азвалася малое, дык Варона
Наробіць гэтакага звону,
Што толькі й чуецца наўкола: «Кар-р!» ды «Кар-р!»
Маё дзіцятка талент мае!
Ну, так-жа моцненька спявае!
Яно — ўпрыгожанне лясоў, палёў, імшар!»
Імчыцца да Дразда, імчыцца да Сініцы,
Спакою не дае Шпаку:
«Дарогу дайце спеваку!
Вы мусіце паклапаціцца!
Дзіця-ж умее моцненька спяваць!»
Але стары Удод сказаў ёй: «Сядзь!

Я слухаў спеў дзіцяці сёння:
Яно спявае па-воронні».

---

Я ведаў мамачку адну, яна па тэлефону
Аб дзетачцы сваёй рабіла столькі-ж звону.



3 Зак. 583



## МАЛПІН ЖАРТ

Пасля начной адказнае работы
Трызор і Мурза спалі каля плоту.
Тым часам Малпа не драмала,
Убачыўшы сабак, цішком
Падкралася да іх і матузком
Хвасты звязала.
Сама-ж схавалася за вугал і глядзіць,
Каменьчыкамі кідзь ды кідзь,—
Стараецца іх пабудзіць.
Што тут было, калі прачнуліся абое!—
Трызора Мурза рве, а Мурзу рве Трызор!
У момант гырканне ўзнялі такое,—
Ажно гудзе ўвесь двор.
А Малпа ледзьве не кладзецца,—
І скача, і крыўляецца, й смяецца,
Так па душы прыйшоўся ёй
Сабачы бой.
Нарэшце развязаліся хвасты,
Сабакі сціхлі, раны залізалі,
Агледзеліся і затым
На Малпу, скеміўшы, напалі,
Што з той ажно пасыпалася поўсць.

---

І між людзьмі такія ёсць:
Звядуць дваіх, наладзяць склоку,
А потым збоку
На цаганіну пазіраюць
І рукі пацціраюць.





## ЖАЛАСНІЦА

Мікіта заўдавеў.
Няшчасце немалое!
Прытым сынка маленькага ён меў,
І вось сынок застаўся сіратою.
Счарнеў, сагнуўся бацька пад бядою,—
Не жартачкі-ж каханую згубіць.
Але гаруй, брат, не гаруй, а трэба жыць,
Якая-б ні была у сэрцы рана.
Таму й не дзіва, што гады праз два
У дом ягоны увайшла ўдава
Мар'яна.
Сышліся, добра зажылі:
Парадак, чыстата у хаце,
Мар'яна за малым глядзіць як маці,
А вось калі
Пасварыцца на сына зрэдку,
Тады бяда, — чуллівая суседка
Так і застогне на дварэ над хлапчанём,
І слёзку пусціць: «Беднае дзіцятка!
Вядома-ж, мачыха — не матка...»
Глядзіш, малое пазірае ваўчанём.
Ды і Мікіту
Яна пры выпадку на вуха: «Жу-жу-жу,
Жыццё ў малога, я табе скажу...
Глядзі ты...»
Хоць спраў ёй да дзіцяці не было,

Хоць і сваіх дзяцей нярэдка лупцавала,
Сынка мікітавага дужа «шкадавала»!
Хто скажа, да чаго-б дайшло,
Магчыма, што сям'я была-б разбіта,
Але, на шчасце, розум меў Мікіта,—
Ён так пужнуў суседку ўдала,
Што той аж млосна стала.

---

І правільна зрабіў — адно магу дадаць —
Такую жаласніцу трэба гнаць,
Каб у жыццё чужое не ўліпала.





## З ВЕЦЯРКОМ

Кузьма Кірылавіч, звычайна, пасля працы
Любіў за горадам з гадзінку пакатацца.
Сядае на машыну вечарком,—
«Ну, — кажа, — Вася, з вецярком!»
Уласна кажучы, бяда ўжо не такая
Махнуць поўста кілометраў туды й адтуль,
Але вось брацца сам за руль
Кузьма Кірылавіч прывычку мае.
Як толькі выедуць за горад на прастор,
Адразу-ж перасаджвае шафёра:
Яму забаўка, а шафёру гора,—
З інспектарам не жарт. Адмовіцца шафёр,—
Глядзіш, у хуткім часе
Начальнік зменіць Васю...
З вялікай хуткасцю аднойчы ён імчаўся,
Кілометраў на восемдзесят пяць.
Шафёр, вядома, хваляваўся,
«Ды нельга-ж, — ён казаў, — машыну гэтак гнаць!
Так і ў кювет зваліцца проста».
А на спідометры ўжо дзевяноста!
Кузьма-ж Кірылавіч газку стараецца паддаць,
І тут няшчасце адбылося з імі:
Насустрач ім у гэты час
Кірыл Кузьміч імчаў якраз
На персанальным «ЗІМе»,
Машыну вёў ён сам і гнаў яе як след.

Сказаўшы карацей, начальнікі ў кювет
Зляцелі пры сустрэчы.
Дарэчы,
На шчасце не забіліся яны:
Кірыл Кузьміч падзёр штаны,
Кузьма Кірылавіч займеў сіняк пад вокам,
А вось шафёрам справа выйшла бокам.

---

Я раіў-бы адзначыць на ілбе
Вялікім і малым кіраўнікам — любому:
Кіруй рулём, давераным табе,
І не сядай за руль, давераны другому.






## БУХГАЛТАР ПІША ВЕРШЫ

Лірычны верш бухгалтар напісаў.
Калі ў газеце твор надрукавалі,
Бухгалтар сапраўды героем стаў,—
Дзяўчаты ледзь яго не цалавалі:
«Ах, Колечка! Ну, так вы напісалі...
Ну, так... ну, так... Ажно займае дух!»
Але не так на гэту рэч зірнуў главбух,
Калі яму той вершык прачыталі.
«Цікава!» — буркнуў ён пад нос
І вестку да дырэктара панёс:
«Бухгалтар піша вершы!»
«Бухгалтар піша вершы?—
Дырэктару у твар аж кінулася кроў.—
Пра што ён піша вершы?» — «Пра любоў!»
«Нягоднік! Гэткую заняў пасаду
І піша вершыкі! К чаму?»
«Але-ж пісаць яму
Не забароніш па загаду...»
«Як справы ён вядзе?» — «Як мае быць».

«Мы зможам ад пісання адвучыць!»
І вось пайшло: ніводнае нарады
Дырэктар прапусціць без кепікаў не мог,—
Пялёх бухгалтару па вочах, ды пялёх:
«З'явіўся вершаплёт бухгалтарскага складу!
Рахункі піша ў нас лірычнае пяро!»
Ды сакратар партыйнага бюро:
«Ну й што? — спытаў. — Калі натхненне мае,
Чаму лірычны верш не напісаць?
Ён песні аб жыцці стварае,
А песня добрая дапамагае
Нам жыць, любіць і будаваць!»

---

Не цяжка 'шчэ сустрэць
Разумніка такога:
Усё, што крышачку вышэй ад радавога,
Ён сам не здольны зразумець
І глупствам лічыць,
Пры гэтым робячы разумнае аблічча.





## ТУПІЦА І ШКАТУЛКА

Тупіца некалі адзін,
Зайшоўшы ў ювелірны магазін,
Цудоўную шкатулку ўбачыў
І аж ускрыкнуў: «Вось удача!
Якраз-жа і патрэбна мне яна.
Даўно шукаю скрыначку такую,—
Цвікі ў ёй трымаць мяркую.
Ну, а якая-ж ёй цана?
Семсот рублёў?!! Ды дзе ваш розум!
За дробязь гэткую цану лупіць!
Вы лічыце мяне напэўна нецвярозым.
Ды шафу-ж можна за пяцьсот купіць!
Пакіньце! Засмяюць вас куры...»

---

А можна адшукаць такіх яшчэ й цяпер,
Што цэняць у літаратуры
Не якасць твора, а памер.





## ДУБАЛЬТОЎКА

Быў з паляўнічым выпадак такі:
Убачыўшы лісіцу, лоўка
Ускінуў да пляча ён дубальтоўку,
Прыцэліўся й спусціў куркі,
Але яна чамусь не пеканула.
Ён зноў куркі узвёў,
Ды стрэл не грымнуў зноў.
Ліса-ж хвастом вільнула—
І будзь здароў...
«Напэўна спуск тугі»,—
Заўважыў сябар на прывале.
«Байкі кароткія», — сказаў другі.
Прычын пяцьсот, не меней, перабралі,
Сапраўднае-ж ніхто не адшукаў.
Тут нехта стрэльбу ў рукі ўзяў
І бачыць:
Яна, вядома, стрэліць не магла,
Бо незараджанай была.
Дык вось адкуль няўдача!

---

Не маеш творчага запалу у душы,—
Не будзе стрэлу, не пішы.





## КАТАСТРОФА

Натан Ісакавіч багата выкладаў,—
Ён лекцыі чытаў
На курсах аграномаў,
На курсах медсясцёр... Усё ён знаў, умеў,
Усюды паспяваў, стараўся і, вядома,
Заробкі меў.
Ды грымнула бяда! Аж задрыжаў Натан:
З кватэры ўкралі чамадан.
Вялікі тут ён лямант справіў,
Галіцца перастаў, на працу не ідзе,
На ногі ўсю міліцыю паставіў,
Шукае скрозь — няма нідзе!
З усіх бакоў Натану спачуванні,
Суцешыць бедака стараюцца сябры:
«Укралі чамадан, і чорт яго бяры!
Ды што было ў тым чамадане?»
А ён крычыць: «Не пражыву!
Няхай-бы лепш укралі галаву!»
Нарэшце высвятляцца справы сталі:
Канспекты ў чамадане тым ляжалі,
Якіх Натан нямала назбіраў,—
Купіў, спісаў,
Альбо яшчэ як-небудзь пастараўся.
Ён сам двух слоў-бы не звязаў,

Таму канспектамі і карыстаўся
Направа і налева, скрозь,
І вось
Без рук застаўся.

---

Такія ёсць вучоныя Натаны,
А што, каб і у іх пакралі чамаданы?!





## МАЛАДЫ САЛАВЕЙ

Вясною маладзенькі Салавей,
Што толькі летась апярыўся,
Пачаў спяваць усё гучней
І добрым спеваком зрабіўся.
Размоў нямала пра яго было,—
Сапраўднае мастацтва у пашане,—
Не жарты, маладое дараванне
Ва ўсёй сваёй прыгожасці ўзышло!
Расла, як на дражджах, яго сяброўка — слава:
Абы ён праспяваў, з бакоў усіх
Крычалі: «Біс!» «Выдатна!» «Брава!»
Прыхільніц ля яго з'явілася арава:
Былі усякія між іх —
Ад маладых Сініц аж да старых Варон.
Што дзень, то ў чэсць яго абед,
Што вечар, то банкет.
Заганарыўся ён,
Адзіным стаў лічыць сябе на свеце,
Спяваў, гуляў
І не прыкмеціў,
Як нейкі там Жаўрук яго перасвістаў.
І слава сябраваць з ім перастала,
Усе прыхільніцы разбегліся памалу, —
Яны цяпер ужо ля Жаўрука.

А Салавей заглух. Майстэрства спевака
Нібы карова языком злізала.

---

Не аднаго на свеце мастака
Зазнайства загубіла.
Яно для таленту — магіла.





## ТАЛЕНАВІТАЯ КУРЫЦА

Дачуўшыся пра славу Салаўя,
Што ён мастак, спяваць выдатна можа,
Ўзляцела Курыца на загарожу
І абвясціла: «Заспяваць і я
Магу таксама.
Ды нават і мацней: ён ростам з вераб'я,
Мая-ж вага — два кілограмы!
Як завяду, дык ахне свет.
Вось толькі сяду на калу як след».
Ну, села
І завяла, ды так,
Што ўсе падумалі: «Напэўна звар'яцела!»
«А што? Я сапраўды мастак?»—
Звярнулася Чубатая да Пеўня.
«Не-е, — Певень адказаў, — напэўна
З цябе не будзе спевака.
Ты-ж кукарэкаць нават не умееш».
«А-а, што ты у мастацтве разумееш!»—
Сказала Курыца й пабегла да Шпака.
Паслухаў той і аж затрос галоўкай:
«Так енчаць хіба што каты,
Спявачкі з вас не атрымаецца, сяброўка».
«Напэўна з глузду з'ехаў ты»,—
Рашыла Курыца і да Дразда імчыцца.

Але яе і Дрозд не пахваліў,
Паслухаў спеў і заявіў,
Што ёй спявачкай не зрабіцца.
Чубатка ў роспач: «Што-ж гэта!—крычыць.—
Майстэрства, талент зацiскаюць!
Другія горш яшчэ спяваюць,
Але яны падтрымку маюць
І могуць жыць!»
«Відаць, не ў тым тваё прызванне,—
Сказаў ёй Качар. — Кінь, кума!
Нідзе не знойдзеш ты прызнання,
Бо таленту ў цябе няма.
Была заўсёды ты карыснай хатняй птушкай,
Дык тое і рабі, што ўмееш ты рабіць.
Чым спеваком апошнім быць,
Куды пачэсней першай быць нясушкай».

---

Калі сапраўдны талент блісне,
Яго ніхто ніколі не зацісне.



4 Зак. 583



## ПАНАС

Закончыўшы дзесяты клас,
Панас
Рашыў у інстытут падацца,—
Вышэйшае асветы дабівацца,
І закруцілася машына ў той-жа час:
Радня забегала па Мінску,
Раскідалі поўтузіна заяў
У юрыдычны, ў медыцынскі.
Прасіла маці, бацька націскаў,
Дзядуля штурмаваў педагагічны,
Але ніводзін інстытут сталічны
Панаса не прыняў,—
Ён не выцягваў нават на чацвёркі.
Панас імчыцца ў Горкі,
У Брэст, у Гродна, ў Магілёў,
Але па конкурсу нідзе ён не прайшоў,
Бо ведамі быў небагаты, —
Правальваецца кожны раз.
Нарэшце прамінуў прыёмны час,
І прыкаціў Панас дахаты.
Здавалася, цяпер дарэмна час не траць,
Ідзі, брат, працаваць.
Але Панас па-свойму вырашыў задачу:
«Нашто ісці мне на завод,

Я на наступны год
У інстытуце буду, няйначай».
І цэлы год Панас адпачываў,
За бацькаваю спінай папраўляўся.
А восень надышла, ў навуку зноў падаўся,
Ды зноў ніводзін інстытут Панаса не прыняў.
І, што вы думаеце, хлопец здаўся?
Ды не! Ён цэлы год яшчэ чакаў,
А потым зноў прыёму дабіваўся.
Знайшлі свой шлях усе яго сябры:
Той трактарыст, а гэты майстар на заводзе,
Панас-жа ўсё па інстытутах ходзіць
Да гэтае пары.

---

Падпілак-бы яму, альбо касу у рукі,
Хай імі дамагаецца навукі.





## ВЕРАБЕЙ І КУРАНЯТЫ

«Таленавіты Певень наш!—
Звярнуўся Качар да сяброўкі.—
Такі-ж на спевы лоўкі,
Як завядзе, дык дух займае аж!»
«Спявае, — Качка кракнула, — з агнём!
А летась быў зусім-жа куранём...
Глядзіш, расце і голас прыбывае».
І тут якраз Квактуха маладая
З-за пуні вывела маленькіх куранят,
А Верабей сядзеў на плоце акурат.
«І з гэтых кожнае, вядома, заспявае,—
Падумаў ён, зірнуўшы на малых,—
А хіба горшы я ад іх?—
Мая й камплекцыя такая,
І ціўкаю таксама, як яны.
Дык варта мне між іх пабыць і пакруціцца
І траплю я ў такія спевуны,
Што свет увесь заганарыцца!»
Рашыў, зрабіў. І дзень у дзень
У куранячай грамадзе
Той Верабей праводзіў лета.
І сапраўды, за тэрмін гэты
Малыя падраслі, акрэплі, асмялелі,
У іншых грабяні зачырванелі,
Навучыліся ўзлятаць на плот,—

Такімі пеўнікамі слаўненькімі сталі!
А неўзабаве й заспявалі.
А Верабей? Падрос і ён за год?
Стаў спеваком вялікім?
Ды не! — чылікае, як і чылікаў.
Але, расказваюць, не кінуў ён сваіх турбот:
Штолета пачынае ўсё спачатку.
Ды вось бяда (і немалая, дадаём!), —
Пад восень вырастаюць кураняткі,
А ён, як быў, і застаецца вераб'ём.

---

Я прыклад з вераб'ём знарок прывёў.
Нямала між пісьменнікаў таўчэцца
Калялітаратурных вераб'ёў,
Але ні рост, ні спеў ім не ўдаецца.





## МАРАК

З раёна рэвізор прыехаў у калгас,
А ў гэты час
Калгасны кладаўшчык з бухгалтарам якраз
Мазолілі мазгі над справаздачай,—
З канцамі звесці не маглі канцы.
Пагрэлі рукі малайцы,—
Адказваць давядзецца ім, няйначай,
Бо рэвізор не будзе жартаваць.
Патрэбна неяк ратавацца,
І кладаўшчык рашыў паспрабаваць:
«З дарогі вам не грэх падсілкавацца,—
Заўважыў ён.—Заглянем да мяне!
І справы лепей будуць вырашацца,
Калі душа не смагне. Так, ці не?»
І ўгаварыў нарэшце рэвізора.
Пад вечар рэвізор, махаючы гурком,
Крычаў, што быў калісьці мараком
І плаваў на лінкоры,
А потым і завёў баском:
«...даже палуба
заплясала-бы...»

Бухгалтар падцягнуў хрыпатым галаском.
І так яны запелі ўдала,
Што нават сучка на падворку не ўтрывала,—
Завыла на вячэрнюю зару.
Уласна кажучы, гаспадару
Тут госця спаць-бы класці,
Ды недагледзеў, на няшчасце!
Хістаючыся, рэвізор
Прыплёўся на калгасны двор.
А перад гэтым дождж абложны ліў,
І хмель у лужу рэвізора паваліў.
«Паплыў!— крычалі хлопчыкі.— Паплыў!
Браткі, глядзіце, рэвізору
Сягоння па калена мора!»
А ён паднімецца і зноў у лужу — шмяк!
«Вылазь, марак,—
Смяюцца-ж людзі!—
Сказаў тут нехта. — Эх, дапамагу...»
І вывалак яго з балота за нагу.

---

Была-б свіння, а лужа будзе.





## ХТО СВІННЯ?

У Янука сынок раптоўна захварэў,—
Адзёр прыкінуўся к маломуТу.
Ён плакаў, полымем гарэў,
Чым справа скончыцца, нікому невядома.
У бацькі лоб трашчаў, а чым дапамагчы?
А маці
З маленькім бегала па хаце.
І раптам уначы
Пастукаў нехта моцна ў дзверы.
«Каго гэта нясе халера?» —
Казаў Янук, у сенцы ідучы.
«Хто там?» «Свае!» «А што такое?»
«Пусці, суседзе, — справа ёсць!»
І ўлезлі ў хату п'яных двое.
«Прымай, — сказаў Мікіта, — я твой госць!
Гарэлкі нам, кілішкі, закусону.
Не парушай гасціннасці закону,
Не жылься, браце мой, падай!»
«Сынок вось у мяне...» — «Хвалю, што не дачушка!
Між іншым, дай шапну табе на вушка:
Ты сябрука майго таксама прывітай,
Бо не адзін-жа я сюды патрапіў».
А той ужо разлёгся на канапе
І задае што сілы храпака.

Злосць агарнула Янука!
«Па-першае,— гаворыць,— позні час,
А па-другое, клікаў дактароў я,—
Сынок хварэе ў нас».
«Дык вось і вып'ем за яго здароўе!—
Зарагатаў Мікіта у адказ.—
Ты жонку кліч, хай налівае».
І тут-жа на ўсю моц як заспявае,—
Аж забразджалі шыбы у акне:
«Ах, дайце, дайце волю мне!..»
Малое плача, не змаўкае,
А той раве, не хоча перастаць.
Напэўна,
Не меней чым да трэціх пеўняў
Янук не мог п'янчузе рады даць,
Але усё-ж на ранку з хаты
Ён сябрукоў сілком папёр.
«Свіння ты!—
Сказаў Мікіта Януку, выходзячы на двор.—
Не ведаў я, што скнара ты заўзяты.
Ніводнай чарачкі не даў да дня!»

---

А хто-ж, уласна кажучы, свіння?





## ЧЭМПІЁН

Быў некалі ў сяле цікавы чэмпіён,
І вось чым хлопец вызначаўся:
Прыпрэцца да сцяны патыліцаю ён,
Дык хто-б ні браўся
За вушы адцягнуць яго — не мог!
Здаралася, што браліся і ўдвох,
Але дарэмна, — хлопец не здаваўся.
«Блазнота! — ён смяяўся. — Дзівакі!
Мяне і ўчатырох не зможаце! — Я дужы!»
І вось, цягаюць кожны дзень за вушы
Яго ва ўсе бакі,
Ён толькі наліваецца крывёю.
«Патрэніруюся,— гаворыць,— два гадкі,
Дык і дзесяцера не ўправяцца са мною.
Змагу спаборнічаць тады з усім сялом!»
«Вялікія ты маеш перспектывы!—
Заўважыў нехта тут. — Мажліва,
Праз два гады ты зробішся аслом!
За гэты час няўзнак
Табе адцягнуць вушы.
І толькі аб адным пашкадаваць я мушу:
Хваста ў цябе не вырасце, бядак».

Бывае, іншы раз юнак
Бязглуздзіцу якую выбрабляе
І гэтым задавацца звычку мае.





## ПОШУКІ ЖАНРА

Мядзведзь узяўся дугі гнуць
(Сюжэт, уласна кажучы, не новы,
Даўно ўжо скарыстаны ён Крыловым),
Давай у лесе ўсё вярнуць,—
Аж стогне маладняк хваёвы і яловы.
Дуг не нагнуў, а наламаў, як кажуць, дроў.
«Не, — думае, — патрэбна мне заняцца,
Ну, скажам, сельскагаспадарчай працай.
А дугі — жанр не мой». І зноў
Пачаў Мядзведзь у лесе завіхацца:
Пад хвоямі зямлю дзярэ карчом.
«Вялікага даб'юся ўраджаю!
Пасею рэпу», — разважае,
На корч свой націскаючы плячом.
Пасеяў. Праляцелі дні.
Нічогачка не вырасла, ані.
«Не тое зноў, — Мядзведзь мармыча.—
А што каб я зрабіўся кавалём?
Быць можа, майстрам хто мяне паліча».
Знайшоў два камяні у яме пад галлём,
Здабыў нарог іржавы недзе,
І праца закіпела ў Мядзведзя,—
Ад бразгання хоць з лесу уцякай!
Ды зноў бяда: як ён ні б'ецца,

Нарог той плешчацца, а не куецца.
Каваль ударыўся ў адчай,—
Знайсці свой жанр яму ніяк не удаецца.
Але усё-ж ён сам сябе знайшоў:
Ён зараз паспяхова, як ніколі,
Працуе ў барсучынай школе
І вучыць барсучыных малышоў:
Як дугі гнуць, як уздымаць аблогі
І як спрытней каваць нарогі.

---

Ён у паэты не прайшоў,
Бо вершыкі былі слабыя.
І ў прозе, і ў драматургіі
Прызнання талент не знайшоў.
Цяпер у крытыкі падаўся,—
Другіх вучыць пісаць узяўся.
А хіба у адной літаратуры
Трапляюцца такія вось натуры?





## БЯЗЗУБАЯ КАРОВА

Калгас аднойчы для разводу
Набыў карову кастрамской пароды,
І старшыня гаворыць зоатэхніку: «Прымай!
Шануй і даглядай,—
У снежні дачакаемся прыплоду».
На рогі паглядзеў той важна так,
Паляпаў па баку, крытычна паўглядаўся,
Зірнуў карове ў рот і аж назад падаўся:
«Карова,— кажа,— брак!
Я верхніх у яе зубоў не бачу.
Адно з яе — пусціць на мясаздачу».
Ну, тут і грымнуў смех!
Вось спец! Загнуў-жа чалавеча!
А дзед Цярэх
Узяў Кузьму за плечы
І кажа: «Верхніх-жа любая
Карова спераду зубоў не мае!»
«А як траву скубе яна?» — Кузьма спытаў.
«Ды языком займае».
Кузьма адстаўку атрымаў.

Я ведаў гэткага Кузьму, дык ён
Усюды балбатаў: «Прывіўка!.. Рацыён!..»
Ці ёсць у тым патрэба, ці няма,
Каб думалі ў раёне, што Кузьма
Усё-ткі веды мае,
А галава была ў яго пустая.





## УПАРТЫ КОНЬ

Буланы пасвіўся ў калгасным табуне,
Хоць і належаў сельсовету.
(Бывае часам так, ці не?)
Стаяла ў саменькім разгары лета,
Гарачая пара, вядома-ж — сенакос.
У гэты час па-над ракою
Ішоў сам старшыня й вуздэчку нёс.
Буланы ведаў, што гэта такое,—
Вось зараз запрагуць у воз!
«Ну, не!» — падумаў конь і хвост узняў
трубою.
З гадзіну біўся старшыня,
Ніяк не мог злавіць упартага каня,—
Ўцякае ад яго Буланы.
Нарэшце, старшыня рашыў падманам
Узяць каня. І вось,
Здымае шапку з галавы і да яго: «Кось-кось!»—
Нібыта ў шапцы той аўса уволю.
Але дурных няма, Буланы конь у поле
Урэзаў так, што толькі ўзняўся пыл.
«Ад працы, браце мой, ты не ўцякай ніколі,—
Заўважыў конь стары з мянушкаю Капыл,—
Не разумею, што з табой за змена?
Ты-ж працу увесь час любіў.
А зараз што зрабіў?»

«Я ведаю, паедзе ён па сена,
Што на участку сельсовецкім накасіў».—
Сказаў Буланы ў абурэнні.
«Дык гэта-ж для твайго забеспячэння!»
«Эге! Каб так было, я-б сена сам вазіў,
Ніякай-бы не вёў размовы,
А ён-жа сена накасіў для ўласнае каровы,
На мне-ж зімой паедзе у калгас
І будзе сена урываць у вас».

---

Што-ж, сена старшыня прывёз,
І не адзін, бясспрэчна, воз,
Бо чалавек ён быў стaранны,
Але... не нахлусіў і конь Буланы.



5 Зак. 583



## ІЛЬВІНЫ СЫНОК

Ільва-кіраўніка
Не бачылі амаль нідзе ніколі,—
Вядома, спраў было ў яго даволі,
Затое на ільвінага сынка
Нагледзеліся ўволю.
Дурэла немагчыма Ільвяня,
Штодня
Гатоў быў нумар новы:
То Барсука за карак патрасе,
А то прычэпіцца пад хвоямі к Лісе,
То зараве, хоць вон бяжы з дубровы.
Ільву не да сынка, дый часу брак,
А матухна Ільвіца
За правіла ўзяла на Лёвачку маліцца,—
І вырас у сям'і нахабнік і лайдак.
Аднойчы вечарам, начхаўшы на закон,
Пачаў, блазнюк, ваду муціць на вадапоі.
«Дык што-ж гэта такое?! —
Здзівіўся Слон.—
Ану, вылазь, паганец, вон,
Пакуль нябіты!»
«Маўчы ты!—
Шапнуў Шакал. — Падумай, галава,
Ды гэта-ж сын Ільва!»
«А-а, сын Ільва! Але-ж не Леў!—

Ды хобатам па спіне ўгрэў
Раздуранаму ільвяняці!—
«Я,— кажа,— дам табе урок,
Калі не атрымаў у хаце,
Адвыкнеш зневажаць суседзей, абібок,
Ды імем бацькавым нахабна прыкрывацца».

---

Прызнацца,
Я нездарма сюжэт узяў такі:
Скандаляць паміж нас ільвіныя сынкі,
А мы не можам даць ім рады,
Бо ў іх кіруючыя таты.





## ШАПТУХІНА ДАПАМОГА

Матруне ўжо даўно зайшло за трыццаць пяць,
І замуж-бы пара — не маладая,
Ды дзе-ж, скажыце, мужа ўзяць?
На маладзенькіх кожны паглядае.
Да прыкладу, Лявон, — чым не жаніх, здаецца, —
Падыдзе, падміргне і засмяецца,
А вось далей — ні тпру, ні но...
Лявона прыручыць ёй не ўдаецца,
Як ні стараецца, ні б'ецца,—
Усё адно.
Начамі ўголас плакала яна.
І вось, шаптуха добрая адна
Прапанавала дапамогу:
«Я,—кажа,— і вазьму з цябе не надта многа,
А хлопец трапіць у палон».
Згадзіліся. За новую спадніцу
Шаптуха пашаптала на вадзіцу
І так падладзіла аднойчы, што Лявон
Павінен быў вадзіцы той напіцца.
Але, ну хоць-бы што,—смяецца толькі ён.
«Ну, не,— сіпіць шаптуха,—адкруціцца
Не зможаш, хлопец! Як ты не ўцякай,
Павінен будзеш ажаніцца.

Я сродак пэўны ведаю. Чакай!»
Матруна ёй цягала
Адзенне, грошы, сала,—
Амаль усё занесла, што было,
А тая усё шаптала, чаравала.
Нарэшце,—што-б вы думалі?—Дапамагло!
На гэты раз
Не выкруціўся хлопец, запісаўся,
Ды... не з Матрунаю, а з той, з якой кахаўся.

---

Снуюць яшчэ шаптухі розныя між нас
І ухітраюцца на веру
Злавіць цяцеру.





## НОВАГОДНІЯ ПАДАРУНКІ

Кіраўнікі раёна
Рашылі ёлку навагоднюю зрабіць
І ў цэнтры горада яе устанавіць.
Аформіўшы ўсё як трэба, па закону,
За ёлкай з'ездзілі ў лес,
Прывезлі, ўстанавілі,
Дзяўчаты цацкі розныя на веццe пачапілі,
Манцёры маладыя з МТС
Гірлянду лямпачак прыгожых запалілі.
Вось дзецям радасці было! Вясёлы крык
На плошчы каля ёлкі ўзняўся.
Тым часам прадпрыемлівы ляснік
Над зводкай завіхаўся.
Падумаў ён, бародку пакусаў,
Прыжмурыўся, прыцэліўся, прыкінуў
І лесу тры кубы спісаў
На тую навагоднюю яліну.
Вось зводка да ляснічага дайшла.
Той прачытаў і лічбу перапраміў:
Да тройкі нуль прыставіў,—
Патрэба, як відаць, была.
А ў хуткім часе,
Няцяжка адгадаць адкуль,
У зводку трапіў новы нуль,
Калі яе перапісалі ў Лесгасе.

Выдатна быў адзначан Новы год!—
Вадзілі дзеці карагод,
А потым Дзед Мароз распакаваў пакункі
І раздаваў маленькім падарункі.
Лесгасаўцы-ж далоні пацiралі:
Яны сабе ўварвалі...





## НАМЫЛЬВАННЕ

Пасля праборкі раз прыйшоў
Лявон Барысавіч дамоў,
Глядзіць, а жонка сына мые,
Намыльвае маломy шыю.
А той смяецца, тропае ў вадзе,
Няма прыемней справы быццам —
Любіў маленькі мыцца!
Лявон Барысавіч на сына паглядзеў
І, уздыхнуўшы, прабурчаў маломy:
«Вядома,
Ты рацыю смяяцца маеш.
Ды што тады ты заспяваеш,
Калі намылкі ад начальства паспытаеш
З маё!..»

---

У кожнага сваё.





## ПІСАКА

Судом
Бацькоўскі дом
Паміж братамі раздзялілі.
Спачатку плошчу ўсю займаў адзін Рыгор,
А зараз і Пятра сюды ўсялілі,
Адсюль і загарэўся, як гаворыцца, сыр-бор.
Да гэтае пары Рыгор здаваў
Пабочным жыхарам пакоі
І ў месяц сотні тры з іх браў.
А зараз... Не, становішча такое
Яму не па нутру. Не можа прымірыцца.
Але к чаму-ж тут прычапіцца?
І ўсё-ж-такі пайшла пісаць кантора,—
Зварыла галава ў Рыгора.
Не важна што, — галоўнае у тым,
Што піша, піша ён усім:
І нарсуддзі, і пракурору,
І ў райсовет, і ў горсовет.
Камісіі ідуць ад кожнай установы.
Але, праверыўшы як след,
Даюць адмову за адмовай,—
Законна ўсё, а скаргі без падстаў.
Рыгора-ж не спыняе гэта,—
Ён скаргі у газеты
Пісаць на ўсе камісіі пачаў.

Карэспандэнты правяраюць,
Дарэмна трацяць час
І кожны раз
Яму рэдакцыі ў падтрымцы адмаўляюць.
Але,— ну як спыніць такога малайца? —
Ён піша, піша без канца...

---

Адзін пісака вось такі заўзяты,
Работы можа столькі даць,
Што скаргі установам разглядаць
Ніякага не хопіць апарату.





## ДОМА

Лукаш Сямёнавіч дамоў спяшаўся,
Была на гэта важкая прычына:
Даклад «Сучаснасць і жанчына»
Рабіць ён рыхтаваўся.
«Дакладзік будзе мой на вышыні!—
Ён разважаў у захапленні.—
Спачатку раскажу пра нашы дні,
Пра поспехі, пра дасягненні,
А потым зазірну і ў карані.
К жанчынам чуласці ў нас мала!
Напрыклад, машыністка Ала:
Ледзь працу скончыць — і дамоў.
Сям'я жанчыну заядае,
Бо ёй не стварылі мы умоў,—
Для працы над сабой, для сходаў, для гурткоў,
Ёй часу быт не пакідае.
Не-е, шкадаваць не трэба слоў».
Ідэямі напакаваны,
Забег ён у пакой
І... сапсаваўся ў дакладчыка настрой:
Нямыты посуд, ложак непрыбраны,

Няма кефіру, чайнік не кіпіць,
І папярос няма таксама,
Непрасаваная піжама
На ложку сіратой вісіць.
Гадзіны дзве ён па пакоі крочыў,
А жонкі ўсё няма й няма.
Злуе... Пачырванелі вочы...
Нарэшце,—вось яна сама.
«Ты дзе была?» — з сябе Лукаш выходзіць.
«Ды,—кажа,—затрымалася на сходзе».
«А мне на гэта напляваць!
Ты бегаеш, а муж твой родны
Сядзіць галодны!
Сасмаг зусім! Ну, як тут працаваць!»
Сказаўшы карацей,—памалу
Дайшло ў іх да скандалу.

---

Быў у мяне такі сусед свядомы:
На службе актывіст, а дома...





## ЛЕЎ І СУСЛІК

У важнага Мядзведзя,
На гасцявым абедзе,
Хапіў залішне Леў,
Сп'янеў
І стаў раўці такія маналогі,
Што госці пазашыліся ў бярлогі.
Каб іншы так зрабіў, то прыкрасць,
пэўна-б, меў,
Ільву-ж сышло, яго сунялі
І форцелі ільвіныя замялі,
Бо леў-жа іншым не раўня.
І толькі Суслік п'янаваты,
Калі яго вялі дахаты,
Пад нос прамармытаў: «С-свіння!»
Ну, балбатнуў, і так ён быў нядужы,
Ды закруцілася ад хмелю галава.
Ільву-ж назаўтра ўвялі у вушы,
А дні праз два
Такая адбылася ў іх размова.
Леў на нягодніка раўнуў сурова:
«Ты што-ж, свіннёй завеш ільва?!»
Душа ўцякла у Сусліка у пяты,
Затросся ён і лёг.
«Даруйце,— кажа,— вінаваты!
Ды як-жа гэта... Як я мог?

Клянуся вам, клянуся свята,
Даю ў заклад і галаву,
Што болей я Ільва свіннёй не абзаву.
Ды я цяпер пакуль жыву,—
Так, так! Паверце мне на слова,
На гэтым прысягнуць гатовы,—
Апошнюю свінню, ў хляве ці за хлявом,
Заўсёды буду зваць Ільвом.
А-ба-вяз-ко-ва!»

---

Сёй-той перад свіннёй гатоў падціснуць хвост,
Калі яна займае значны пост,
Ільва-ж, хоць той і свінства выробляе,
Не можа абарваць, бо смеласці не мае.





## ВЕЧНЫ РУХАВІК

Тэхнолага я ведаў аднаго,
Прамоўца быў тэхнолаг той — ого!
І выступаць умеў па кожнаму пытанню:
Пра яслі, пра чырвоны там куток...
Але хіліў усё ў тэхнічны бок
І мог прагаварыць аж да світання,
Каб толькі слова давялося атрымаць.
Аднойчы сход рашыў абмеркаваць
Пытанне аб вячэрніх школах,
І вось, у спрэчках выступіў тэхнолаг.
Спачатку ён сказаў, што веды ёсць святло,
А потым ад пытання адхіліўся,
За вечны рухавік схапіўся,
І тут, браткі мае, пайшло!
Гадзіна пракацілася, другая,
Прэзідыум ледзь не пабіў званок,
А ён на гэта ўвагі не звяртае,
Даказвае, ажно ад поту змок,
Што руху вечнага ў прыродзе не бывае.
Яму крычаць: «Даволі!» «Хопіць!»
А ён дзяўбе, дзяўбе адно.
Але спыніў яго адзін талковы хлопец:
«Мы,— кажа,— гэта ведаем даўно.
Ды вашу вось праслухаўшы прамову,

Я вывад вымушан зрабіць такі,—
І гэта фактам даказаць гатовы:
Існуюць вечныя рухавікі,
Напрыклад, ваш язык,—
Ну, чым не вечны рухавік?
Адна бяда — з яго карысць малая,
Таму ён перспектыў не мае».





## КАРОВА І ГАРСЭТ

Каб стройную займець фігуру,
Бязрогая карова здуру
Успяла на сябе гарсэт
І у казла спытала:
«Ну, што, сусед,
Я значна прыгажэйшай стала?
Страйнейшая цяпер я сапраўды?
Ну, як знаходзіш ты?
Скажы-ж мне усяго два словы:
Якая думка пра мяне твая?
Па-твойму, да каго падобна
заразя?»
«Падобна ты, суседка, да... каровы».
Салідна адказаў Казёл-аўтарытэт.

---

Гляджу вось на суседку Нэлі
І думаю: карове і гарсэт
Надаць не можа выгляду газелі.





## АДНАКАРЫТНІКІ

Наранку аж загуў увесь калгас,—
Прынеслі вестку пастухі атары:
Сабака вартавы Баймас
У бойку уступіў з ваўком паджарым,
Які апоўначы ў імшары
Украсці барана хацеў.
Баймас на злодзея рашуча наляцеў,
За горла ухапіў бадзягу,
Ля купіны замшэлай паваліў
І задавіў.
Пашана вартавому і павага,
За ўчынак гераічны шмат падзяк!
Дабегла гэта вестка да сабак,—
Прынёс яе адзін дварняк.
«Ну, што-ж,— няблага!—
Сказаў Палкан, вышукваючы блох.—
І я-б ваўка загрызці змог,
Каб толькі з ім схапіўся».
«Хто? Ты?!— Званок здзівіўся,—
Ды ты ад страху, пэўна-б, здох,
Каб зараз воўк з'явіўся!»
«А чым я не Баймас?
І у мяне даволі спрыту!
Баймас-жа вырас тут, у нас,

Ды мы з ім гадаваліся ў свой час
І елі з аднаго карыта!»
«Маўчы ты! —
Сказаў, пачуўшы гутарку, Трызор. —
Баймас рашучы, смелы,
А ты і носа не паказваеш на двор
Абы сцямнела.
Аднакарытнікі! Баймасу ён раўня!
Ты толькі й ведаеш памыйніцы штодня,
Ды крыссе у дзяцей скубеш умела,
А потым уцякаеш за паркан.
Блудзяга ты і хуліган!
Гыр-р-р!— зараз я табе зраблю праборку!»
«Ай-я-я-яй!»— заекатаў Палкан,
І толькі бачылі яго сабакі на падворку!

---

«Вядомы дзеяч наш — аднакарытнік мой!
Ды мы з ім солі з'елі тону з лішкам!» —
Крычыць другі лайдак парой.
Магчыма, што яго знаёмы і герой,
Ды што з таго, калі ён сам пустышка.





## ДЫМ

Адзін заядлы гарадскі рыбак
Сябрам сваім расказваў так:
«У лютым я,—ілгаць не буду,—
Бляшнёй лавіў з-пад лёду акунёў.
Мясцінку слаўную знайшоў
І рыбы налавіў ля пуда!
Не ўбачыў, як і вечар надышоў, —
Пара дамоў.
Прыехаў. Жонка хваліць рыбку.
А я шукаю піпку.
Усе кішэні вывернуў дарма,—
Нідзе няма.
Згубіў напэўна,—гэткая дубіна!
І вось, ужо ў красавіку,
Я з вудамі прыехаў на раку,
Куды ніжэй ад той мясціны.
Гляджу, плыве ільдзіна,
Над ёю курыцца дымок.
Багром ільдзіну я у бухтачку ўвалок.
Прыгледзеўся,—мая ты дарагая!
На лёдзе піпачка ляжыць
І не пагасла, ўсё дыміць!»

---

Калі рыбак часамі загінае,
Дык скажа кожны: «Жартаўнік!»
А вось бывае,
Што сам рыбтрэста кіраўнік
У вочы дым пускае...





## ЗАЯЦ-ЛАЙДАК

Для зайца Беляка
Настала цяжкая часіна:
Ён жыў на ўчастку неблагога лесніка,
Дзе шкодная рука
Не ссекла за зіму ніводнае асіны.
Хоць ты кладзі пад елку зубкі, —
Няма ніводнае парубкі.
Аднойчы з Беляком Русак спаткаўся,—
Ён недзе ўжо крыху падсілкаваўся
І бег адпачываць
Пасля абеда.
«Ну, што чуваць?»
Спытаў Русак суседа.
«Хваліцца нечым,— адказаў бядак.—
Хутчэй-бы ўжо вясна, а то загіну».
«Ты ўсё яшчэ галодны?» «Так».
«Няма каму табе надзерці спіну!
Лайдак-жа ты, лайдак
І дурань! — Чуеш?
У лесе днюеш і начуеш
І думаеш, табе хто ежы прынясе? —
Мы, Русакі, даўно ўжо ўсе
Харчуемся ў калгасным садзе.
Пасаджаным у лістападзе.

Там дрэўцы абвязаць чамусьці не паспелі,
Дык за зіму мы з'елі
Прыблізна яблынек пяцьсот».

---

Лайдак
Тут не Бяляк,
А садавод.





## КОНЬ І ТРАКТАР

Буланы вёз
Аднойчы гною воз
На поле.
Цягнуў сабе паволі
І ўбачыў: трактар у сумет урос.
Буланы прывітаўся з ім, вядома:
«Здароў, знаёмы!
Я восенню табе вазіў ваду.
Ты што, браток, патрапіў у бяду?
Стаіш вось тут, увесь абледзянелы.
Што здарылася, адкажы?
Чаму зімуеш ты не ў гаражы?
Магчыма МТС... Пажар?.. Згарэла!»
«Не,—трактар уздыхнуў,—пажару не было.
Тут недзе сеялка яшчэ зімуе...
Дарэмна не шукай,— яе ўжо замяло.
Чаго стаім?—Не ведаю. Мяркую,
Дырэктар нас загнаў у гэты кут.
Было яму той год вымоў даволі,—
Мы дужа позна выйшлі ў поле.
А сёлета мы з восені ўжо тут».

---

Вымоў дырэктару, па-мойму, будзе болей.





## ТАВАРЫШ ЗВЕРХУ

Кіпіць гарачая работа,
Усе стараюцца ў соўгасе аж да поту:
Куды ні глянь,— і тут і там
Мільгаюць граблі, мётлы, вілкі.
Ідзе рамонт аўтапаілкі,
І у свінарніку таксама тарарам:
Дзябёлыя свінаркі-маладзіцы
Купаюць парсюкоў у цёпленькай вадзіцы.
У свірне мітусня, у гаражы,
Мятуць, раўнуюць, падграбаюць,
Ад гурбаў снегу расчышчаюць
Дарогу аж да саменькай шашы.
Дырэктар Клім
Кіруе ўсім,
І столькі аганьку у поглядзе ягоным:
Заліў-бы ён соўгас адэкалонам!
Навошта гэты шум? Чаму усё кіпіць?
Таварыш зверху маецца прыбыць!
(Дырэктар папярэджан быў раёнам.)
Але у самы, так сказаць, разгар
Без хусткі машыністка-сакратар

Аббегла ўсе хлявы, свінарнікі, павеці:
«Канчайце,— загадала,— шум і звон!
Паведаміў раён,—
Таварыш зверху не прыедзе!»
— Ну, ўсё! — ўздыхнулі там і тут.
Дырэктар лысіну абцёр насоўкай,—
Пакончана з параднай падрыхтоўкай!..
...Застаўся ля аборы гною груд,
Ля свірну ўжо ніхто не падмятае,
Валяюцца запчасткі ў гаражы,
У свінарніку парсюк намылены ляжыць...
Спакой.

---

Бывае так у нас, таварышы, бывае.





## ГЕНЕРАЛ

У Марціна Сімука
Дарагое свята:
Жонка першага сынка
Нарадзіла тату!
А сынок-жа! Ну і сын!—
Дзякуй роднай Қаці!
Ходзіць з хлопчыкам Марцін
Па прасторнай хаце
І любуецца сынком
Гэтакім удалым.
«Будзе ён кадравіком,—
Қажа,— генералам!»
«Генералам? — у адказ
Запытала маці,—
Гэтых сцежак то якраз
Сын і не таптацьме».
«А чаму ты кажаш — не?
Ён-жа не слабенькі!»
Смокча сосачку у сне
«Генерал» маленькі.

«Бо праз нейкіх дваццаць год,—
Кажа Каця,— вольным
Будзе ў свеце ўвесь народ
І адкіне войны.
Ад падпальшчыкаў вайны
Не зблюдзецца й следу,—
Ні забойства, ні маны
Свет не будзе ведаць.
Што-ж вайсковаму рабіць,
Любы, застанецца?»
«Генерал» спакойна спіць
І праз сон смяецца.
Туліць жонку да сябе
Усхваляваны тата:
«Ты, Кацюша, у мяне
Добры агітатар!
Так яно й павінна стаць,
Як ты гаварыла.
А пакуль што,— працаваць
Буду, колькі сілы.
А калі пайсці да нас
Паімкнецца зграя,—
Цэл вайсковы мой паяс!—
Хай брыдота знае.
І не страціла рука
Шчодрасць на расплату!..»
У Марціна Сімука
Дарагое свята.





## КАШТОЎНЫ ГРУЗ

У вокнах сонца зіхаціць —
Кастрычніцкае ранне.
Сержант міліцыі стаіць
У цэнтры скрыжавання.
Трымае жэзл ён у руках.
Шафёр глядзіць з кабіны.
Рукі упэўнены узмах —
Спынілася машына.
І вось каля грузавіка
Ужо начальнік руху,
Ляціць рука да казырка
Падкрэслена і суха.
«Не ведалі?— Грузавікі
Не ходзяць па праспекце!»
«А вы зірніце, груз які,—
Каштоўнейшы у свеце!—
Шафёр азваўся малады:—
А вось, пуцёўка, наце».
Зірнуў сержант —
І сапраўды
У кузаве багацце!
Цудоўны маладзенькі сад
З'явіўся на праспекце:
Машына поўная дзяўчат,—
Дзетдомаўскія дзеці.

Нібыта ўбраная ў вянок
Стаіць машына гэта
І выбіваецца лянок
З-пад сіненькіх берэтаў.
«Імчыцца наш дзіцячы дом
Сталіцай любавацца!» —
Малая кажа,
Пад ілбом
Два сонейкі іскрацца.
Сержант назад ступіў на крок,
На сэрцы пацяплела,
І зноў рука пад казырок,
Як птушка узляцела.
Жэзла службовага узмах,
Ад сэрца слова: «Едзьце!»
Адчынены шырокі шлях
Машыне па праспекце.





## СУСТРЭЧА ВЯСНЫ

Па калгасе ідзе сакавік,
Топча снег спарахнелы.
Рассыпаюць гракі у бярэзніку крык
І бадзёры і смелы.
Дзень памалу за ўзгоркамі знік,
А яны не змаўкаюць.
Па калгасе ідзе сакавік,
На бярэзнік ківае:
«І гракам не да сну,—
Сустракаюць вясну!»
А у кузні нібыта пажар,—
Мора дыму і звону:
Рамантуе каваль інвентар,
І плугі і бароны.
Звечарэла, але працаўнік
Адпачыць не жадае.
Па калгасе ідзе сакавік,
На агонь паглядае:
«Кавалю не да сну,—
Сустракае вясну!»
Цэлы дзень на палях брыгадзір
З паляводамі крочыў,
За часопісам зараз сядзіць
Позняй ноччу.
Ён складае канспект-чарнавік,
Як маршрут ураджаю.

Па калгасе ідзе сакавік
І ў цішы развàжае:
«І яму не да сну,—
Сустракае вясну!»
Ля праўлення гармоніка звон,—
Не марнуючы часу,
Весялосцю разліўнаю ён
Падпявае абцасам.
Шэпча ў вушка Ігнат-чараўнік
Белакурай Марыне...
Усміхнуўся, міргнуў сакавік
І хлапцу і дзяўчыне:
«Маладосць! Не да сну,—
Сустракаюць вясну!»





## ТАЛЕНТЫ

У калгас да бабкі Катры
Прыкаціў унук Антон,
Ён у оперным тэатры
Самы лепшы барытон.

Ну, вядома, ў той-жа вечар
Цесным стаў бабулін дом.
На цікавую сустрэчу
Мы сышліся ўсім сялом.

Разважалі, гаманілі,
Мы пыталі, ён пытаў.
Раптам, ляпнула Марыля:
«Што каб нам ты паказаў
Спрыт выдатны свой спявачы!»

«Сціхні! Госць-жа ён у нас!»
«Што-ж, прымайце справаздачу,—
Кажа хлопец,— бо калгас
Пасылаў мяне ў навуку».
І пачаў...
Браткі мае!

Ну, такія-ж льюцца гукі,
Так ён хораша пяе!

Скончыў ён, а мы ў далоні
Як урэжам...
Апанас
«Талент! — кажа. — Братцы, сёння
Ён адзіны паміж нас».

«Як? — спытала цётка Поля,—
Не, з табой не згодна я,—
Талентаў у нас даволі.
Вось, хаця-б, дачка мая:

Птушкаферма як у Просі?
Проста ўцешна паглядзець!
Курка кожная там зносіць
Па яечку кожны дзень».

«Ёсць заслугі, безумоўна,—
Адгукнуўся дзед Лявон.—
Не без таленту й Пятроўна
Гэткі вырасціла лён!»

«Альбо мой унук Мяфодзя,—
Дзед Мікіта заявіў,—
Ён на трактарным заводзе
Тройчы норму перакрыў!»

«Трэба ўспомніць і Ягора,—
Падказаў канюх Іван,—
Цеплаход вядзе па моры,
Ён — вядомы капітан!»

«Талентаў у нас не мала,—
Гэтак вырашылі ўсе.
У інстытутах, на каналах,
На заводах, у тайзе,—
Скрозь, куды ні гляне вока
Праца плённая кіпіць.

Тут будуюць гмах высокі,
Там цягнік з рудой імчыць.

Варым сталь і сеем жыта
І мацнеем з году ў год,
Бо такі таленавіты
Увесь савецкі наш народ!





## ГАСТРАЛЁР

Рана выехаўшы з дому,
Не паснедаўшы як след,
Старшыня райвыканкома
Чынчыкуе у «Рассвет».

Аж пад Кіраўск сёння едзе
Дальнабачны кіраўнік.
З ім трасуцца у «пабедзе»
Сакратар і планавік.

А у кузавах двух «мазаў»,
Што імчацца з усіх сіл,
Ён вязе старшынь калгасаў,—
Хай услед глытаюць пыл.

Што-ж у іх за падарожжа,
Праз краіну з краю ў край?
Адпачыць рашылі, можа,
Зняўшы добры ураджай?

Перадаць суседзям вопыт,
Як расціць выдатны лён?
Не, зусім не гэты клопат
Іх нясе ў чужы раён.

Самі вопыту шукаюць,
Бо ў раёне, дома, ў іх

Скрозь калгасы ўсе кульгаюць
І няма перадавых.

Вось і едзе ён з «капэлай»
Да Арлоўскага за свет.
Летась ездзіў у «Гастэла»,
Зараз едзе у «Рассвет».

У яго адзіны метад
Гаспадаркай кіраваць:
Ад «Гастэла» да «Рассвету»
Падначаленых цягаць.

Кіраўнік даволі строгі
Гэты мудры старшыня:
«Бугая бяры за рогі!—
Вучыць кожнага штодня.

Бачыў справы у «Рассвеце»?
Так павінна быць і ў нас!»
І ізноў з «капэлай» едзе
У праслаўлены калгас,

Дзе ў парадку усё чыста,
Дзе прыбытак — міліён.
А сапраўдным кіраўніцтвам
Не парадуе раён.

Не мазоліць ён далоні,
І не тлуміць галавы,
Каб і дома, у раёне,
Быў калгас перадавы,

На які маглі-б раўняцца
Усе калгасы, увесь раён.
Не па ім такая праца.
Ды і некалі займацца,—
У «Рассвет» імчыцца ён.





## СЕЛІВЕЙ ФАМІЧ

Селівей Фаміч Ступеня
Быў начальствам не малым:
Ведаў сельгасупраўленнем,
І салідным — абласным!
Цераз меру прынцыповы,
Ён любіў вялікі штат.
Запаўнялі установу
І складалі апарат

Інжынеры, аграномы,
Лабаранты і, вядома,
Планавік — ветэрынар,
Заатэхнік — сакратар.

Ён не ездзіў у раёны,
З кабінета кіраваў:
Стол начальніцкі ягоны
Ледзьве папкі ўсе трымаў.
У аддзелах не гулялі,—
Ён сачыў за гэтым сам,—

Планы, графікі складалі,
Накіроўвалі «нізам»

Інжынеры, аграномы,
Лабаранты і, вядома,
Планавік — ветэрынар,
Зоатэхнік — сакратар.

Дзень, здаецца, не кароткі,
Мае восем ён гадзін,
А начальству трэба зводкі,—
Раскапай усё, знайдзі:
Як пасеялі ў раёнах,
Як праходзіць абмалот...
І вісяць на тэлефонах
Дні і ночы напралёт

Інжынеры, аграномы,
Лабаранты і, вядома,
Планавік — ветэрынар,
Зоатэхнік — сакратар.

Фамічу парадак гэты
Быў па сэрцу — любата!
Але вось мінула лета
І падкралася бяда,
Нечаканае здарэнне,—
Ўсё па-новаму пайшло:
Ледзь не кожны з упраўлення
Запрасіўся на сяло:

Інжынеры, аграномы,
Лабаранты і, вядома,
Планавік — ветэрынар,
Зоатэхнік — сакратар.

Разгубіўся тут Ступеня,—
Што рабіць? З чаго пачаць?
Хто-ж цяпер па упраўленню
Будзе графікі складаць?
Штат малы, абмежаваны...

Ну, які-ж тут будзе лад!
Трэба зводкі! Трэба планы!
Значыць, трэба апарат:

Інжынеры, аграномы,
Лабаранты і, вядома,
Планавік — ветэрынар,
Зоатэхнік — сакратар.

І Фаміч падрэзаў крыллі
Ўсім,—
Адмовіў згарача.
Ды ў абкоме асадзілі
Селівея Фаміча.
«Стоп!— сказалі,— не спрачацца!
У пухір дарма палез,
Бо павінны падавацца
У калгасы й МТС

Інжынеры, аграномы,
Лабаранты і, вядома,
Планавік — ветэрынар,
Зоатэхнік — сакратар».





## ЛЯВОНАВЫ ПРЫГОДЫ

А Лявон ды Лявоніху любіў,
Лявонісе чаравічкі купіў,
Ды нядоўга жонка ласкавая
Чаравічкамі паляскавала:
Толькі тупнула кабета адзін раз,
Адваліліся абцасы ў той-жа час,
Парастрэсквaліся тут-жа перады,—
А характар у Лявоніхі круты!
І зазнаў-жа непрыемнасці Лявон!
Аж патыліцу зачухаў бедны ён,
На пакупку пазірае і маўчок,—
У Лявоніхі быў востры язычок:
«А чаму-ж цябе пярун не забіў,
Як ты гэта мне паскудства купіў!
Ці-ж вачэй не меў з сабою ты, лайдак,—
Не разгледзеў на прылаўку гэты брак».
А Лявон ды Лявоніху любіў,
Ён пад паху чаравічкі схапіў
І у момант, як гаворыцца, адзін

З чаравічкамі прыджгаў у магазін.
Чаравічкі прадавец у рукі ўзяў,
Паглядзеў і спачувальна адказаў:
«Замяніць вам чаравічкі быў-бы рад,
Але браку не прымаем мы назад».
«Ну, а мне вы што параіце рабіць?»
«Чаравічкі трэба новыя купіць,
Бо старыя, пэўна-ж, выкінеце вон...»
«Кнігу скаргаў!» — тут абурыўся Лявон,
Але толькі харахорыўся дарма,
Бо даведаўся, што кнігі ў іх няма.
Можа, й ёсць яна, ды крамнік не дае,
Пакупнік не дабярэцца да яе.
А Лявон ды Лявоніху любіў!
Да канца давесці справу ён рашыў
І падаўся, не дагоніш на кані,
У шавецкую арцель да старшыні:
«Вы паслухайце, таварыш! Як-жа так!
Хіба можна выраблядь сягоння брак?»
Чаравічкі старшыня у рукі ўзяў,
Спачувальна галавою паківаў.
«Праца наша, не хаваюся ад вас.
Але што уласна трэба вам ад нас?»
«Як што трэба? Чаравічкі замяніць!»
«Вы-б Лявоніху навучылі іх насіць.
Калі жонка ваша ласкавая
Чаравічкамі паляскавала,
Не шкадуючы падлогі, увесь час,—
Дык які-ж тут можа вытрымаць абцас!
А вы ўспомніце, аб чым казаў народ:
Дзеду боты праслужылі сорак год,
Бо стары ў руках абутак свой насіў,
А унучак як надзеў, дык і разбіў.
Вось прыйшоў і чаравічкам гэтым крах,
Бо насіла іх кабета не ў руках.
Будзе правільна насіць, скажыце ёй,
Я адказваю за якасць галавой».
А Лявон ды Лявоніху любіў!
Ён, вядома, чаравічкі ёй набыў,
Ды такія, што аж люба паглядзець,
Калі вуліцай Лявоніха ідзе.

Хоць і ляскае — трымаецца абцас!
Ёсць абутак добраякасны у нас.
Ды, нажаль, яшчэ здараецца і так,
Што у продажы трапляецца і брак.





## ДЗЕ ГЭТА ВУЛІЦА?..

Хлопец учора
Дзяўчыну сустрэў.
Полымем позірк
Дзяўчыны гарэў,
Хлопцу праменьчык
У сэрца запаў,
Хлопец сустрэчы
З дзяўчынай чакаў.
Толькі не мог ён
Да ладу узяць,
Як-жа дзяўчыну
Сваю адшукаць.
Адрас каханай
Яму невядом, —
Дзе гэта вуліца?
Дзе гэты дом?
Гучна прагуў
На заводзе гудок,
Хлопец спыніў
Быстраходны станок,
З касы зарплату

Сваю атрымаў,
Кро́чыў дахаты
І так разважаў:
«Жыць у няведанні
Я не магу.
Вечарам горад
Увесь аббягу
І распытаю
Усё чарадом,—
Дзе гэта вуліца,
Дзе гэты дом?»
Вечар.
Заззялі ужо ліхтары.
Хлопца сустрэлі
На плошчы сябры.
«Вася! З зарплаты,
Давай па адной!»
І пацягнулі
У напрамку піўной.
Хлопец кампанію
Дужа любіў,
Сам-жа гарэлкі
Амаль што не піў,
Быў ён з піўнымі
Зусім незнаём,—
Дзе гэта вуліца?
Дзе гэты дом?
Выпілі хлопцы
Кілішкаў па пяць.
Як-жа ў кампаніі
Чарку не ўзяць!
Хлопец гарэлкай
Язык развязаў
І пра дзяўчыну
Сваю расказаў.
«Глупства!— сябры
адказалі,—
Ды мы
Ведаем вуліцы ўсе
І дамы!
Зараз табе
Адшукаем гуртом,

Дзе гэта вуліца,
Дзе гэты дом».
П'янай кампаніяй
Хлопцы ідуць,
Двое з іх Васю
Падпашкі вядуць,—
Сам-бы і кроку
Зрабіць ён не мог,
Бо ўжо не чуе
Ні рук і ні ног.
Трэці паперадзе
Песню гудзе,
Ён па заданню
Разведку вядзе,
У кожныя дзверы
Грыміць кулаком:
Дзе гэта вуліца?!
Дзе гэты дом?!

Выйшла дзяўчына
Да іх з-за вугла,
Лепшай сустрэчы
Чакаць не магла!..
Ёй-бы назад,
Але позна ўцякаць...
«Доўга вас хлопец
Павінен шукаць?!—
П'яны сябрук
Ухапіў за рукаў.—
Вася сустрэчы
Ўвесь вечар чакаў!
Мусілі-ж вы
Растлумачыць ладком,
Дзе гэта вуліца,
Дзе гэты дом!»

Лаюцца моцна
І брыдка сябры.
Кінуты Вася
Ляжыць дагары,
Новым касцюмам
Абцёр тратуар.
Твар у дзяўчыны
Гарыць, як пажар.

Людзі сышліся
Яе ратаваць.
«Трэба міліцыю,—
Кажуць,— пазваць!»
«Хто пабяжыць
За бліжэйшым пастом?»
«Дзе гэта вуліца?»
«Дзе гэты дом?»

Дружны наўкола
Рассыпаўся смех:
Васю у кузаў
Кульнулі, як мех,—
Едзе ў міліцыю,
П'яны у дым.
Добры быў хлопец,
А зараз па ім
Болей дзяўчына
Не будзе ўздыхаць,—
П'яніц дзяўчаты
Не хочуць кахаць.
Адрас яму
І не будзе вядом,—
Дзе гэта вуліца,
Дзе гэты дом.





## ДУЖА ВЕСЕЛА...

Вось бывае, што якраз пад Новы год
Лыжка дзёгцю нам трапляе проста ў мёд.

Інжынер, начальнік цэха, пяць брыгад
Пазіраюць увесь час на цыферблат.
Трое сутак на заводзе ўжо яны,
Прыганяюць шатуны ды паўзуны.
Ім на пяты наступае Новы год,—
План вытворчы не выконвае завод.
Сам дырэктар з кабінета ў тэлефон
«Націскай!—крычыць.—Давай! Бяры разгон!»
Ён з бухгалтарам узяўся за разлік,—
Усё за год перабірае, кіраўнік,
Пералічвае і колькасць і вагу,
Цягне план, нібы халяву на нагу.
«Вал» павінен ён наскрэбці, хоць бы што!
І наранку уздыхнуў, нарэшце: «Сто!»

Усміхнуўся, выцірае буйны пот...
Дужа весела сустрэлі Новы год!..

Клуб заводскі перапоўнены амаль,—
Новагодні пачынаецца тут баль.
У праграмме спевы, скокі аж да дня,
А спачатку профсаюзны старшыня
Для прысутных скажа ўступных пару слоў.
Вось на сцэну ён з паперамі ўзышоў,
Стаў у позу, кашлянуў і распачаў:
Уздымаў пытанні, каратаў, заключаў,
Ставіў рубам, разглядаў на ўсе бакі...
За кулісамі паснулі спевакі,
Людзі ў зале пазяхаюць на чым свет,
Той ды сёй падаўся ціхенька ў буфет.
Досыць бойка гардэроб запрацаваў.
Недзе певень на пасёлку заспяваў,

Старшыня-ж усё дае пытанням ход...
Дужа весела сустрэлі Новы год!..

Ехаць з горада сабраліся дамоў,
Ды забег начальнік збыту да сяброў.
«На хвіліначку!» — сказаў ён і прапаў.
У машыне пяць гадзін яго чакаў
Спадарожны, свой пасёлкавы народ, —
Усім хацелася дамоў пад Новы год.
Вось прыйшоў ён, калі стала ўжо цямнець:
«Да дванаццаці дамоў нам не паспець,—
Уздыхнуў шафёр абураны,— зіма,
А у фарах у мяне святла няма».
Як даехалі,— не будзем траціць слоў,
Толькі скажам, што з'явіліся дамоў,

Калі добра засінеў ужо усход...
Дужа весела сустрэлі Новы год!..

Трыццаць першае. Гудзе гудок. Шабаш.
Ля фабрычнай прахадной Кузьма й Тамаш.
«Новы год праз дзве гадзіны, брат Кузьма!»
«Жонка просіць паспяшацца не дарма!»
«Ну, вядома, быць ля сем'яў трэба нам!»
«А магчыма... папярэдне... па сто грам?»
«Што-ж, быць можа... не пашкодзіць і па сто...»
У буфеце чыкілдыкнулі — нішто!

Закусілі, паўтарылі,— і па ўсім,—
Загулялі выпівакі — слупам дым!
Дома жонкам надакучыла чакаць,
Дзеці сумныя даўно палеглі спаць.
Новы год ужо на вахту заступіў.
Хмель сяброў на поўдарозе паваліў,—

Пэўна змерзлі-б, ды забраў начны абход...
Дужа весела сустрэлі Новы год!..





# САТЫРЫЧНЫЯ ДРОБЯЗІ

## ЗГУБЛЕНЫ АГРАНОМ

Мы згубілі аграномa.
Дзе падзеўся?— невядома.
Ледзь знайшлі усім сялом
У паперах за сталом.

## ПЕРАБУДАВАЎСЯ

Кіраўнічы стыль ягоны
Значна зменены цяпер:
Болей ён не шле папер,
Бо прыліп да тэлефона.

## ВУЧОНЫ БУФЕТЧЫК

Закончыўшы ветэрынарны інстытут
Пасля пяці гадоў вучэння,
Ён атрымаў на працу прызначэнне
І заявіў: «Не бачыў я пакут!

Што я ветэрынар — мне ясна,
Але не вабіць двор мяне калгасны.



Я лепей застануся тут,—
І ў горадзе прыстроюся на дзіва!»
Ён зараз прадае ў буфеце піва.

## „КУЛЬТУРНАЯ"

Пагавары,— культурна выглядае,
Прывыкла у панбархаце хадзіць,
А дома, як ніхто ў акно з суседзей не глядзіць,
Памыйнае вядро на ганак вылівае.

## ЛЯ ТЭЛЕФОНА

Алё! Сяброўка, павіншуй!
Выходжу замуж я за Жору!
Як прозвішча яго? Не ведаю, даруй,—
Мы-ж толькі пазнаёміліся ўчора!

## НА КУХНІ

Гатуюць суп і боршч, пякуць бліны
І сварацца!.. Ну, ледзь не рвуць валоссе.
Чаго?! А хіба ведаюць яны?
Ды проста так у іх на кухні павялося.

## ЦЫТАТЧЫКУ

Не маеш думкі ў галаве,
Сам разважаць няздатны,—
Далёка, брат, не заплывеш
Пад ветразем цытатным...





ЗМЕСТ

## БАЙКІ

## ВЕРШЫ І ФЕЛЬЕТОНЫ





